

№8(64)
Жнівень 2014

# Рэчыцкі агляд

Незалежнае выданне | Выдаецца з 1999 г.

# Калектыўны сон розуму беларускага парлямэнту

Ігар Случак ужо некалькі гадоў лістуецца з чыноўнікамі і фірмамі, змагаючыся за прастору і правы для беларускамоўных.

Неодназразова Случак звяртаўся па пытанні адраджэння беларускай мовы, пашырэння яе выкарыстання да розных службовых асобаў, але адказ ва ўсіх аднолькавы, як зроблены пад капірку, як быццам пры складанні выкарыстоўваўся калек-тыўны розум.

Вось, напрыклад, адказ дэпутата ад Рэчыцкай выбарчай акругі № 44 Адама Вашкова: «Я сам закончыў беларуска-моўную школу і станоўча стаўлюся да роднай мовы. Але як дэпутат ня бачу сэнсу ўносіць гэту прапанову на разгляд парлямэнта». Напрыканцы Вашкоў разьвітваецца: «*С павагай*», і тут разумееш, што школу сваю Верасьніцкую ён скончыў не зусім проста. Прынамсі, зь беларускай мовай праблемы былі дакладна.

Бярэм наступны адказ ад дэпутата Буда-Кашалёўскай выбарчай акругі № 38 Пятра Шостака і чытаем «Я сам закончыў беларускамоўную школу і станоўча стаўлюся да роднай мовы...» і гэтак далей.

Можа, Шостак з Вашковым вучыліся ў адной школе? Магчыма і такое, але з адказаў пад капірку цалкам не зразумела, хто ў каго ў школе сачыненьні сьпісваў — Вашкоў у Шостака, ці Шостак у Вашкова.

Як мы бачым з лістоў, атрыманых І. Случаком адказы у іх аднолькавыя. А да гэтых лістоў былі яшчэ і іншыя. Як такое мае быць? Адказ на ўсе гэтыя пытанні можа быць толькі адзін — ніякай незалежнасьці ў дэпутатаў няма, а ўсімі іх рухамі, дзеяньнямі і выказваньнямі кіруе адзін калектыўны розум, які пасылае сыгнал аб тым, што рабіць і што пісаць. Такая навуковая фантастыка па-беларуску, ну проста сцэнар для фантастычнага фільму зь сюжэтам аб тым, як іншаплянэтнікі ці нейкія іншыя істоты замбавалі парлямэнт маленькай, але квітнеючай і стабільнай краіны, і празь яго праводзяць свае інтарэсы.



Па матэрыялах РС



## Солнечная электростанция под Речицей

2-я старонка



## Золата мяккай саломкі ды медзь гнуткай лазы

5-я старонка




## У Светлагорску звольнілі з працы настаўніцу года

6-я старонка

# Андрэй Стрыжак дапоўніў скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека новымі фактамі



Каардынатар моладзевай сеткі незалежнага прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Андрэй Стрыжак паскардзіўся ў Камітэт ААН па правах чалавека на забарону чыноўнікамі Рэчыцы ў правядзенні мірнага сходу

Каардынатар моладзевай сеткі незалежнага прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Андрэй Стрыжак паскардзіўся ў Камітэт ААН па правах чалавека на забарону чыноўнікамі Рэчыцы ў правядзенні мірнага сходу – 8 верасня 2013 году вулічнага шэсця з мэтаю пратэсту супраць пастановы Ураду аб адмене аплаты бальнічных лістоў бацькам, якія выхоўваюць дзяцей.

Андрэй Стрыжак: у Камітэце ААН па правах чалавека ўжо зарэгістравана і разглядваецца мая скарга аб забароне рэчыцкімі чыноўнікамі ў 2012 годзе ў правядзенні падчас афіцыйнага святкавання дня незалежнасці мірнага сходу ў падтрымку сваіх калег з Мікашэвічскага Граніту. Зараз я дапоўніў гэтую скаргу новымі фактамі, каб паказаць, што забарона мірных сходаў у Беларусі носіць сістэматычны характар.

Цікава, што намеснік старшыні Вярхоўнага суда, суддзя Андрэй Забара, адказваючы на наглядную скаргу Андрэя Стрыжака, напісаў, што міжнароднаму праву аб свабодзе сходаў нацыянальнае заканадаўства не супярэчыць, паколькі Міжнародны пакт аб грамадзянскіх ды палітычных правах дапускае абмежаванні права на мірныя сходы. У той жа час чыноўнік прамаўчаў аб практыцы Камітэта па правах чалавека, якая зыходзіць з таго, што менавіта на дзяржаве ляжыць абавязак кожны раз даказаць, для якіх мэт яна забараняе тое ці іншае масавае мерапрыемства.

Андрэй Стрыжак просіць Камітэт ААН прызнаць факт парушэння Рэспублікай Беларусь яго правоў у адпаведнасці з артыкулам 19 (свабоднае выказванне свайго меркавання) і артыкулам 21 (свабода мірных сходаў) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Прафсаюзны актывіст таксама просіць ад ААН рэкамендацыі для Рэспублікі Беларусь аб прывядзенні нацыянальга заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і практыкі яго прымянення ў адпаведнасць з міжнароднымі абавязкамі краіны.

Роман Карпов

# «Белоруснефть» построит под Речицей солнечную электростанцию

На территории Белорусского газоперерабатывающего завода планируется построить фотоэлектростанцию мощностью 3,6 МВт. По проекту станция будет состоять из двух площадок, на которых разместятся: 14 465 фотоэлектрических панелей, распределительные устройства и три преобразователя постоянного тока в переменный. Сейчас на месте будущей станции монтируют рамное поле. Как сообщает сайт «Белоруснефти», это уже не первый объект фотоэнергетики, который они строят. В прошлом году нефтяники смонтировали мини фотоэлектростанцию мощностью 40 кВТ.



# Мама с двумя детьми и ее подруга вынесли из «Евроопта» в детской коляске товаров почти на два миллиона

Все произошло в речицком «Евроопте». По версии следствия, в течение нескольких часов женщины набирали в детскую коляску различные вещи: шампуни, мыло, дезодоранты, зубную пасту. После этого они вышли из магазина. Но служба охраны не позволила им далеко уйти. — Девушки ранее судимые, причем, одна неоднократно. Вели асоциальный образ жизни, — рассказала заместитель начальника — начальник 2-го следственного отделения Речицкого РОСК Галина Глушакова. — Возбуждено уголовное дело по ч.2. ст.205 УК РБ (тайное похищение имущества (кража), совершенное группой лиц). Судьбу самих обвиняемых будет решать суд. Что будет с их детьми, будут решать компетентные органы.

# Залили бензин, оттолкнули сотрудника заправки и скрылись, не заплатив

По версии следствия, компания из четырех речичан каталась по городу, но в авто закончился бензин. Несмотря на то, что трое парней были выпившими, общими силами они дотолкали машину до заправки. Там двое молодых людей вышли из машины и стали заливать топливо на небольшую сумму, которая была у них с собой. Когда объем бензина превысил оплаченный, сотрудник заправки сделал парням замечание. Но молодые люди его оттолкнули, быстро сели в машину и попытались скрыться. – Уехали они недалеко. Остановились возле ближайшего магазина, где и были задержаны милицией, – рассказал следователь 1-го следственного отделения Речицкого РОСК Денис Бараненко. – Возбуждено уголовное дело по ч.2 ст. 206 УК РБ (грабеж группой лиц по предварительному сговору).

# Житель Речицы пожаловался на то, что его избили неизвестные, но попал под следствие сам

Житель Речицы, который пришел в милицию жаловаться на неизвестных хулиганов, избивших его, после разбирательств сам получил уголовное дело за ложный донос. — Гражданин написал заявление в милицию, в котором указал, что на улице на него напали незнакомые люди, — рассказал начальник третьего следственного отделения Речицкого отдела СК Дмитрий Шейко. — Однако после проверки оказалось, что мужчину ударил знакомый, когда они поссорились. Сейчас возбуждено уголовное дело по ч. 1 ст. 400 УК РБ (заведомо ложный донос). Статьей предусмотрено наказание в виде ареста на срок до трех месяцев или ограничения свободы на срок до двух лет. По данным следствия речичанин таким образом пытался выгородить друга.

# На огороде жительницы Речицы за ночь неизвестные без трактора и коня выкопали 112 кг картофеля

По данным следствия, хищение произошло в ночь на двадцать пятое августа, — рассказали в Речицком отделе СК. Также унесли четыре килограмма свёклы. Сколько человек работало и как именно им удалось в такие короткие сроки провернуть операцию, пока говорить рано — ведется следствие.

Роман Карпов

# Сталкеры обнаружили под Речицей великолепно сохранившуюся советскую базу для хранения ядерного оружия

Казалось бы, речичане уже изучили свой регион вдоль и поперек и удивить их чем-либо очень сложно. Однако российские сталкеры сумели это сделать, да еще как! В 20 километрах от Речицы они обнаружили заброшенную Центральную базу хранения ядерного оружия «Гомель-30». Несмотря на заброшенность, база находится в состоянии «великолепной сохранности». Так говорят сами сталкеры. Кадры почти 40-минутного ролика, снятого имиь, порой напоминают геймплей культовой компьютерной игры Fallout 3. Отчет подготовил сталкер Андрей



Няшный. На его канале собраны десятки видеозаписей о таких объектах. «Гомель-30» выделяется своей сохранностью.

**Историческая справка.** *Гомель-30 (в/ч №42654) - бывший арсенал 12 ГУ МО СССР. Ныне заброшена, на территории находятся заброшенные хранилища боеголовок. Часть использовалась для хранения ядерных боеприпасов и поставки их на ближайший военный аэродром. В угрожаемый период должно было проводиться рассредоточение ЯБП с арсеналов, для чего на базе сборочных бригад арсеналов должны были разворачиваться ПТРБ. Имеются сведения, что, по крайней мере, некоторые из ЦБХ имели удвоенный кадровый состав для обеспечения быстрого развертывания ПТРБ.*

Юлия Рак

# Из кармана каждого белоруса заберут 1 290 долларов

Эта сумма следует из увеличения подоходного налога и размера акцизов.

Каждый работающий белорус в среднем заплатит в 2015 году в бюджет дополнительно около 116 долларов США – из-за повышения ставки подоходного налога и увеличения размера акцизов. Всего на уплату подоходного налога и акцизов из кармана каждого работающего гражданина уйдет примерно 1 290 долларов.

Повышение ставки подоходного налога с 12% до 13% предусмотрено в проекте закона о внесении изменений и дополнений в Налоговый кодекс Беларуси. Законопроект предусматривает также увеличение ставки акцизов на все группы подакцизных товаров. В частности, на алкоголь, в том числе на крепкий, - на 10%, на табачные изделия - на 15-30% с сохранением трех ценовых сегментов, что позволит увеличить налоговую нагрузку на более дорогие сигареты. Акцизы на автомобильное топливо предлагается поднять в среднем на 10% с дифференциацией ставок в зависимости от экологического класса. На другие группы подакцизных товаров - в среднем на прогнозный параметр инфляции, то есть, на 12,5%. Ставки акцизов на пиво в целях стабилизации финансового положения предприятий пивоваренной отрасли планируется сохранить на уровне 2014 года.

Несложные расчеты показывают, что в результате будет дополнительно получено в среднем около 1 165 000 бел. рублей с каждого работающего гражданина. Всего же из экономики будет изъято около 58 896 млрд. рублей в виде акцизов и походного налога.

В соответствии с планируемым повышением ставки подоходного налога, по официальным данным, в 2014-м году должно быть собрано 30 864,5 млрд. рублей в виде подоходного налога. Увеличение ставки на 1% приведет к увеличению поступлений в бюджет на 2 572 млрд. рублей. Это означает, что в среднем каждый работающий гражданин заплатит дополнительно 565 830 рублей подоходного налога.

В результате увеличение акцизов на табачные изделия (кроме импортированных) на 15-30% поступления в бюджет могут вырасти до 4 821,3 млрд. рублей. По данным Белстата, на начало 2013 года доля курящего населения в возрасте 16 лет и старше составила 25,9%, или 2 330 тысяч. Таким образом, в 2015 году каждый курящий заплатит в казну в виде акцизов с среднем около 2,07 млн. рублей, или на 380 000 рублей больше, чем в 2014-м.

Налоговая нагрузка на автомобилистов в 2015-м году также возрастет. Акцизы на автомобильное топливо предлагается поднять в среднем на 10% с дифференциацией ставок в зависимости от экологического класса. Это означает, что поступления в бюджет могут возрасти до 9 467 млрд руб.

Александр Егоров

# Золата мяккай саломкі ды медзь гнуткай лазы

Усяго крыху больш за паўгода прайшло з таго часу, як у Рэчыцы адчыніў свае дзверы Цэнтр рамёстваў. Але ўжо зараз невялічкаму калектыву супрацоўнікаў ды пазаштатнаму актыву захавальнікаў традыцыйных беларускіх мастацтваў ёсць чым пахваліцца.

Дырэктар Цэнтра рамёстваў Юлія Крагель прызнаецца, што спачатку сумнявалася, ці варта брацца за кіраванне такой установай, якая павінна зрабіцца асяродкам творчых сіл раёна, тых людзей, якія яшчэ памятаюць спрадвечныя заняткі нашых бабуль і дзядуль і гатовыя падзяліцца сваімі ўменнямі ды ведамі з іншымі. Тым больш, што раней падобнага роду ўстаноў у раёне не было і ўсё давядзецца ствараць з чыстага аркуша. І ўсё ж спадарыня Юлія з тых, хто не спыняецца перад цяжкасцямі, а праца ў сферы культуры для яе не з'яўляецца нечым новым і нязведаным. Яе маці – Святлана Уладзіміраўна – ужо працяглы час кіруе Холмецкім цэнтрам культуры і рамёстваў. Ды й сама Юлія, атрымаўшы мастацкую адукацыю менавіта ў напрамку народных промыслаў, працавала нейкі час у холмецкай установе культуры. Ды й, прызнаюся, у блакітных вачах, што і дагэтуль ззяюць імпэтам творчасці на прывабным аблічча пад валасамі саламянага колеру, можна ўгледзець некаторыя бліскавічкі рызыкоўнасці, але, зрэшты, вядома ж, што той, хто не рызыкуе…

Маляўнічую шыльду "Цэнтр рамёстваў" над дзвярамі былой выставачнай залы, што на скрыжаванні Савецкай з Пралетарскаю, многія бачылі яшчэ з канца лета мінулага года. Тым больш не маглі прамінуць, каб не пацягнуць за ручку гэтых дзвярэй тыя рэчычане, хто захапляецца нейкім мастацтвам. Спачатку цягалі-цягалі, ды дарэмна. Але калі ў Цэнтра з'явіўся кіраўнік, то неяк пазнаходзіліся і апантаныя супрацоўніцы – самі прыходзілі ды пыталіся: што гэта за ўстанова і ці можна туды патрапіць на працу. Пры гэтым некаторыя нават працуюць па сумяшчальніцтву, маючы асноўнае працоўнае месца ў іншых арганізацыях. У Цэнтры рамёстваў жа – займаюцца ўлюбёнаю справаю.

– Вы ж зразумейце, нам тут, канешне, быццам бы нават нейкую зарплату плацяць, але для нас нашая праца – гэта сапраўднае задавальненне, – заўзята тлумачыць майстар-вышывальшчыца Таццяна Давыдава. – Мы тут – нібыта нейкая сям'я, апантаная творчасцю, якая, на шчасце, зрабілася нашаю агульнаю працаю. І збітая фраза "На работу, як на свята" для нас мае самы поўны сэнс!

Сапраўды, калі бачыш рэчы, вырабленыя рукамі работнікаў



Цэнтра, спачатку крыху губляешся, але потым разумееш, што такое можна зрабіць толькі з вялікаю любоўю да сваёй справы. Ну і, вядома ж, з выкшталцоным густам!

Сама дырэктарка – спецыяліст у саломапляценні. Але ж такая саламяная аматарка яна тут не адна. Усё ж Юліі Крагель даводзіцца вялікую частку свайго працоўнага часу прысвячаць розным арганізацыйным ды гаспадарчым пытанням. Але ж надзейнае прыкрыццё "саламянага" фланга ў яе ўстанове – майстар саломапляцення Дар'я Ермакова. Менавіта яе рукамі створаная ўнікальная рэч, якая раней была ледзь не ў кожнай беларускай хаце – так званы "павук". Ён звычайна мусіць знаходзіцца пад самаю столлю, і калі я ўзняў вочы ўгару, куды была скіраваная рука Дар'і, да нашай размовы далучылася навуковы супрацоўнік Цэнтра Кацярына Мохарава. Яна разам з дырэктаркаю тлумачаць, што "павук" – гэта галоўны абярэг беларусаў. Яго рабілі перад надыходам новага года з вялікай колькасці ромбікаў альбо трохкутнікаў з саломы. Па 12 такіх ромбікаў складаліся ў адмысловы модуль, а колькі тых модуляў здолее змацаваць майстар – залежала ад яго майстэрства. У рэчыцкім "павуку" – 350 модуляў. Выраблены ды падвешаны пад столлю хаты "павук" убіраў у сябе ўсё тое кепскае і негатыўнае, што магло з'явіцца ў жыцці нашых продкаў. І, як запэўнілі мяне супрацоўніцы рэчыцкага Цэнтра рамёстваў, тамтэйшы "павук" – вельмі магутны абярэг.

І, дарэчы, я падчас знаходжання ў невялікім памяшканні Цэнтра цалкам у гэтым пераканаўся. Атмасфера там сапраўды дужа станоўчая. Нават сысці з гасцінных пакояў неяк не атрымлівалася – ідучы на сустрэчу з майстрамі, думаў: некалькі фотаздымкаў, невялікая гутарка – ну няхай гадзіну зойме маё наведванне. Але незаўважна сярод саламяных, лазовых, гліняных, тканых, драўляных, маляваных вырабаў-твораў праляцелі ажно тры гадзіны!

Адной са сваіх мэт супрацоўніцы Цэнтра лічаць менавіта вывучэнне народных традыцый, асаблівасцяў розных рамёстваў нашага рэгіёна і іх замацаванне ў сваіх творах. Ну і, канешне ж, захаванне ды перадача гэтых уменняў праз пакаленні. Пры гэтым асабліваю каштоўнасцю тут

працяг на стар. 7

# У Светлагорску звольнілі з працы настаўніцу года



У сярэдняй школе № 10 г. Светлагорска звольнілі з працы Алену Маслюкову, якая сёлета была прызнана лепшай настаўніцай Светлагорскага раёна.

У мінулым навучальным годзе ёй уручылі грамату Гомельскага абласнога ўпраўлення адукацыі, а цяпер не працягнулі кантракт, нават не даючы магчымасць выпусціць свой 11 клас.

Аб гэтым распавёў на старонцы ў сацыяльнай сетцы Віктар Раманцоў, жыхар Светлагорска і колішні калега А. Маслюковай.

А. Маслюкова скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, а да таго – сярэднюю школу № 7 (цяпер гімназія) Светлагорска. Працаваць у школе на педагагічнай працы пачала яшчэ да паступлення ва ўніверсітэт. Цяпер мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю, якую пацвердзіла летась. У кастрычніку мінулага году А. Маслюкова за высокія вынікі ў працы была ўзнагароджана граматай Гомельскага абласнога ўпраўлення адукацыі.

**Настаўніца года**

Сёлета ў лютым у Светлагорску праходзіў фінал раённага конкурса прафесійнага майстэрства «Настаўнік года». Школа № 10 вылучыла на конкурс А. Маслюкову. Вялікая зала Дома культуры энергетыкаў не ўмясціла усіх, хто прыйшоў падтрымаць фіналістаў. Многія вучні-дзесяцікласнікі А. Маслюковай, у якіх яна была класным кіраўніком, паўтары гадзіны стаялі ў фае, імкнучыся быць побач са сваёй настаўніцай у гэтай падзеі.

Усе ўдзельнікі конкурсу паказалі высокія вынікі, а першае месца і званне «Настаўнік года» журы прысудзіла А. Маслюковай. Ёй і ўручылі конкурсны дыплом І-ай ступені, які падпісала начальнік раённага аддзела адукацыі Людміла Вялічка.

**Звальненне**

Паводле звестак Светлагорскага райаддзела адукацыі, за ўсе гады працы ў А. Маслюковай не было ніводнага спагнання. Калі пачалі праводзіць школьныя алімпіяды па гісторыі, пад яе кіраўніцтвам была сфарміравана першая каманда Гомельскай вобласці на рэспубліканскую алімпіяду. Па выніках працы настаўніца неаднойчы была адзначана заахвочваннямі і ўзнагародамі. Не так даўно яна была сярод педагогаў Светлагорска, пра якіх пісала «Настаўніцкая газета».

А па заканчэнні мінулага навучальнага года дырэктар школы Драпеза Людміла Якаўлеўна без тлумачэння прычын паведаміла аб тым, што ў верасні настаўніца будзе звольнена ў сувязі з заканчэннем тэрміну кантракта. Дарэчы, на працу ў СШ-10 А. Маслюкова пераходзіла ў свой час менавіта па запрашэнні кіраўніцтва гэтай школы. Раней яна працавала ў светлагорскай СШ-1, а да таго – у філіяле Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа, які дзейнічаў у 1993 – 2001 гг.

У школе вядома, што А. Маслюкова ўздымала пытанні аб вялікай «папяровай» працы, якую даручаюць педагогам, казала пра тое, што на настаўнікаў узвальваюць неўласцівыя ім функцыі, адмоўна ставілася да прымусовай падпіскі на дзяржаўныя газеты. Ці не гэта стала прычынай звальнення? На пытанне настаўніцы аб тым, ці з'яўляецца звальненне ініцыятывай дырэктара альбо яно робіцца па ўказанні вышэйстаячага кіраўніцтва, Л. Драпеза адказала: «Тут усё сыйшлося».

**Не згодны з ідэалогіяй? Выключыць са школы!**

З паведамленняў СМІ за апошнія гады бачна, што гэта не першы падобны выпадак у СШ-10 Светлагорска. Некалькі год таму Л. Драпеза намагалася выключыць са школы 11-класніцу Марыяну Мірчук – за тое, што навучэнка цікавілася грамадска-палітычнымі пытаннямі, і яе погляды не ва ўсім супадалі з ідэалагічнымі патрабаваннямі дырэктара (у далейшым дзяўчына паспяхова скончыла міжнародны каледж і ВНУ). Разам з тым, падчас выбараў ад навучэнцаў патрабуецца абслугоўваць працу выбарчай камісіі. Прыцягненне вучняў да абслугоўвання выбараў, якія з'яўляюцца палітычным мерапрыемствам, для дырэктара прымальнае.

**Лінейка не па сцэнарыі**

Апошнім працоўным днём у А. Маслюковай было 2 верасня. Адкрыццё навучальнага года 1 верасня праводзілі ў актавай зале, з-за пахмурнага надвор'я.

Адзінаццацікласнікі, якія вялі лінейку, нечакана папрасілі выйсці на сцэну А. Маслюкову, увесь свой клас і бацькоў. «Дзеці плакалі», – напісаў В. Раманцоў. Развітваючыся з настаўніцай, вучні падарылі ёй вялізарны букет руж.

Пасля лінейкі прысутныя бацькі сабраліся ў дырэктара з просьбай заключыць кантракт з настаўніцай хоць бы на год, каб даць магчымасць 11 класу закончыць школу разам са сваёй класнай кіраўніцай. Аднак дырэктар адмовіла ў гэтым.

заканчэнне на стар. 8

# Золата мяккай саломкі ды медзь гнуткай лазы

працяг, пачатак на стар. 5

з`яўляюцца менавіта нашыя нацыянальныя, мясцовыя рамёствы. Спадарыня Юлія распавядае, што часам да іх звяртаюцца аматары такіх відаў творчасці як бісерапляценне, тапіарыі, макрамэ і да таго падобныя замежныя ўмельствы. Ніхто не спрачаецца, што гэтыя рэчы часам бываюць вельмі прыгожымі і дастаткова цікавымі. Але ж беларускі Цэнтр рамёстваў усё ж павінен садзейнічаць адраджэнню і захаванню менавіта нашай – беларускай – нацыянальнай ідэнтычнасці.

І варта сказаць, што гэта ў яго атрымліваецца. Нягледзячы на



вельмі нават непрацяглы перыяд работы, калектыў згуртаваў вакол сябе дастаткова шырокае кола аматараў нашых традыцыйных рамёстваў і мастацтваў. Сямнаццаць майстроў-рамеснікаў падтрымліваюць сувязі з Цэнтрам, выстаўляюць тут свае вырабы, праводзяць майстар-класы для дзетак ды іншых ахвочых навучыцца рабіць нешта прыгожае. Сярод іх супрацоўнікі ўстановы адзначаюць разьбяра па дрэве Міхаіла Лаўрыенку, чыім дзівосным бачаннем свету, увасобленым у драўніне, можна і зараз замілавацца ў выставачнай экспазіцыі, што пастаянна дзейнічае ў адной з залаў Цэнтра; дзівосна прыгожыя рэчы вырабляе са скуры Алена Зайцава-Маёрава; ручное ткацтва чароўных паясоў – канёк Наталлі Калач; а кавальскія вырабы маладога каваля Аляксандра Лысенкі здзіўляюць вытанчанасцю сваіх форм, быццам і не з жалеза зробленыя, а з якогасьці пластыліну; габеленавае ж вышыванне Святланы Бацуновай наўрад ці патрабуе асаблівага прадстаўлення для рэчычан, бо вядомае і далёка за межамі нашага горада; асабліва ўрачыста выглядаюць саламяныя творы, зробленыя Тамарай Акімкінай. І ўсе гэтыя людзі іншы раз проста прыходзяць у Цэнтр рамёстваў і кажуць тамтэйшым супрацоўнікам: “А дайце я нешта буду рабіць, бо душа прагне творчасці!”

Зрэшты, такое жаданне часцяком выказваюць і звычайныя жыхары Рэчыцы, якія пакуль не авалодалі ў дасканаласці нейкім асаблівым відам мастацтва ці рамесніцтва. Ім падабаецца проста дадаваць свой унёсак у прыгажосць, якую ствараюць супрацоўнікі ўстановы. А ўжо яны гатовыя пасадзейнічаць, навучыць, даць неабходныя веды і навыкі падчас майстар-класаў, на якіх з задавальненнем прысутнічаюць не толькі дзеці, але і дарослыя. Падчас такіх урокаў мастацтва любы майстар не проста вучыць вырабляць тую ці іншую рэч, але і распавядае вельмі цікавыя звесткі пра тое, для чаго яна служыла раней. Напрыклад, тыя ж саламяныя лялькі мелі вельмі розныя сэнсы і значэнні ў залежнасці ад таго, якога выгляду яны рабіліся. Яшчэ больш важнай інфармацыі схавана ў традыцыйнай беларускай вышыўцы – арнаментах, кветках, падборы колеру шыцця.

Нават вырабы з лазы тояць у сабе нейкую ледзь не магічную сілу. Як сцвярджае Юлія Крагель, калі на стол паставіць, напрыклад, цукерачніцу з лазы і побач такую ж, але



фарфоравую, то госці часцей цягнуцца менавіта да натуральнай лазовай пасудзіны. “А там у аснове ўсёй канструкцыі ляжыць старажытны сімвал – крыж!” – тлумачыць дырэктар Цэнтра рамёстваў. Дарэчы, што тычыцца лазы, то яе нарыхтоўка, апрацоўка ды і само пляценне – вялікая і складаная навука. І тут бясспрэчным адмыслоўцам сярод супрацоўнікаў з’яўляецца Алена Марачкоўская. Пры гэтым майстар аспрэчвае многія “парады”, якія даюцца ў адпаведнай літаратуры ці інтэрнэце. На ўласным досведзе, а таксама досведзе сваёй маці – Галіны Ермаковай – яна вывела свае формулы і тэхналогіі.

Зрэшты, свае таямніцы ёсць у любога майстра. Нездарма ў ранейшыя часы сярод майстроў нейкай спецыяльнасці пэўных рэгіёнаў існавала нават своеасаблівае арго – гэткі слэнг, зразумець які маглі толькі іх сябры – такія ж абазнаныя ў нейкай галіне адмыслоўцы. Ёсць нейкія свае хітрыкі і ў майстроў Цэнтра рамёстваў. Тая ж Юлія Крагель, напрыклад, расказвала мне, як яна і ў ванне мые, і на газавай пліце варыць, і ў духоўцы запякае… салому. І нарыхтоўвае яе сама – жне серпам у полі каля роднага Холмеча.

заканчэнне на стар. 8

# Золата мяккай саломкі ды медзь гнуткай лазы

заканчэнне, пачатак на стар. 5

На паліцы заўважаю некалькі сувеніраў, якія стаяць побач з дзівоснымі гліненымі лялькамі. "А гэта чыя такая прыгожая творчасць?" – не магу стрымацца, каб не спытаць. Аказваецца, лепкай у Цэнтры кіруе Таццяна Пашкова. А гліняных сялян і шляхцічаў вырабіла іншы майстар – Ірына Захарава. Але цяпер у Цэнтры няма муфельнай печы, каб абпаліць свае вырабы з гліны. Таму, пакуль гліняныя фігуркі чакаюць свайго "гарачага" часу, Таццяна Пашкова больш увагі і падчас майстар-класаў, і ў звычайнай працы надае лепцы з цеста. І робіць з яго наўпрост дзівосныя рэчы. Гэта сапраўдны сувенірны канвеер.



Яшчэ адзін напрамак нашай нацыянальнай культуры – маляванка. Гэта – сфера дзейнасці ўжо згаданай Ірыны Захаравай, якая не так даўно прыехала жыць у Рэчыцу з Віцебшчыны. Зараз яна працуе над цыклам маляванак "Традыцыйныя святы беларусаў".

Беларусы маюць вельмі багатую культурную спадчыну, якая на пэўным адрэзку нашай гісторыі была залічаная ў непатрэбныя і неістотныя. Зараз жа час паказаў, што без гэтых каранёў немагчыма зрабіцца самадастатковай нацыяй. І тое, што ў нас ствараюцца такія ўстановы як Рэчыцкі цэнтр рамёстваў, дзе вельмі ашчадна і клапатліва збіраюцца, вывучаюцца і захоўваюцца нашыя нацыянальныя рамёствы і мастацтвы, – вялікі ўнёсак у станаўленне нас, беларусаў, як годнага еўрапейскага народа. Супрацоўнікі Цэнтра рамёстваў заўжды гатовыя бачыць у сваіх сценах тых, хто захаваў уменні нашых продкаў, альбо тых, хто хоча навучыцца нешта рабіць. Ну і, вядома ж, разам са сваімі пазаштатнымі сябрамі гатовыя здзівіць прыгажосцю спрадвечна беларускіх народных вырабаў.

Андрэй Мядзедзеў, "Дняпровец"

## Апошняя старонка



# У Светлагорску звольнілі з працы настаўніцу года

заканчэнне, пачатак на стар. 6

**Падбор кадраў: кампетэнтнасць і мараль – не галоўнае**

Многія ў Светлагорску не сумняваюцца, што чарговае гучнае звальненне ў школе мае дрэнна схаваныя палітычныя матывы. Шмат педагогаў, не згодных з ідэалагічнымі патрабаваннямі ўладаў, сыходзяць са школ самі. Між тым, без кампетэнтных, але «нязручных» для ўладаў настаўнікаў якасць сярэдняй адукацыі няўхільна зніжаецца. Ці не таму цэнтралізаванае тэсціраванне паказвае штогод значна ніжэйшыя веды ў выпускнікоў у параўнанні з адзнакамі ў школьных атэстатах?

– Вось вам і якасць, і ўзровень нашай адукацыі. Пагаршэнне ведаў на выхадзе – ужо норма. У школе – ні табе пашаны, ні грошай, ні задавальнення, – каменціруе звальненне А. Маслюковай адзін з ранейшых выпускнікоў СШ-10 – А. Петухоў, які ўжо сам паспрабаваў настаўніцкай працы.

Усё гэта вядзе да той сітуацыі ў сістэме адукацыі Светлагорскага раёна, якую нармальнай не назавеш. Дастаткова ўзгадаць хоць бы крымінальную справу па гвалтаванні дзяўчынак памочнікам выхавальніка ў дзіцячым доме. Там падбор кадраў не выклікаў сумнення ў адукацыйнага начальства.

Юлія Рак

*"Рэчыцкі агляд" №8(64)*
*Галоўны рэдактар - **Валерый Пуціцкі***
*Наклад 299 экз. надрукаваны на ксераксе*
*Распаўсюджваецца бясплатна*

**www.rechyca.org**